# НАША СВАБОДА

№50(137) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

18 ТРАЎНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Сямён ДОМАШ: «Патрабуе паляпшэння...»

З Масквы ў Беларусь вярнуліся магчымыя кандыдаты на пасаду прэзідэнта краіны Сямён Домаш, Павел Казлоўскі, Сяргей Калякін і Міхаіл Чыгір. Старшыня Каардынацыйнай Рады «Рэгіянальная Беларусь», вядомы палітык Сямён Домаш патлумачыў карэспандэнту «БИ» наступнае:

— Мы яшчэ раз пераканаліся, наколькі расійскае грамадства мала ведае аб сапраўдным стане справаў на Беларусі. Усе падзеі, якія адбываюцца ў нашай краіне, тлумачацца выключна праз беларускія дзяржаўныя інфармацыйныя крыніцы, адлюстроўваюць толькі пункт гледжання ўлады. Пасля нашых выступленняў грамадска-палітычная і эканамічная сітуацыя ў Беларусі ўспрымалася расійскімі палітыкамі, праваабаронцамі і журналістамі ў некаторых выпадках як адкрыццё.

***— Трохдзённая праграма візіту закончылася прэс-канферэнцыяй. Але да гэтага таксама былі цікавыя паседжанні...***

— Так. 10 траўня адбыліся грамадскія слуханні тэмы «Правы чалавека ў Беларусі і Расіі: сумесны аналіз і агульныя дзеянні». Дастаткова сказаць, што ў дыскусіях прымалі ўдзел такія вядомыя асобы, як дэпутаты Дзярждумы Расіі Вячаслаў Ігруноў, Сяргей Кавалёў, Валерый Баршчоў, прадстаўнік агульнарасійскага руху «За правы чалавека» Леў Панамароў, супрацоўнік Інстытута правоў чалавека Валянцін Гефтэр, старшыня Фонду абароны галоснасці Расіі Аляксей Сіманаў, эксперт з Цэнтра экстрэмальнай журналістыкі Саюза журналістаў РФ Алег Панфілаў. З беларускага боку праблемы абмяркоўвалі Аляксандр Дабравольскі, Вера Страмкоўская, Андрэй Бастунец, Алег Волчак, Паліна Сцепаненка. Абмеркаванне паказала, што сітуацыя з правамі чалавека як у Беларусі, так і ў Расіі патрабуе значнага паляпшэння.

*Заканчэнне на стар.3*

## Сем медалёў гарэлцы

На Усерасійскім аглядзе-конкурсе лікёра-гарэлачных вырабаў «Якасць XXI стагоддзя» як ніколі шчодра «азалацілі» прадукцыю з Брэста. 7 знакаў, у тым ліку за ўкараненне прагрэсіўных тэхналогіяў і абсталявання, прывезеныя з Масквы, але для іх не знойдзецца месца ў мастацка-рэкламным афармленні пляшак з моцнымі напоямі. На Брэсцкай «лікёрцы» лічаць, што пахвала з Масквы зараз адпужвае замежных спажыўцоў ад нацыянальнай гарэлкі Беларусі.

# Людзі супраць падманшчыкаў



Фота Ул.ШЛАПАКА

16 траўня ва Уруччы прайшоў другі агульны сход жыхароў гэтага сталічнага мікрараёна, якія патрабуюць ад мінскіх уладаў спыніць будаўніцтва замежнымі фірмамі элітных дамоў каля дома №27 па вуліцы Русіянава.

На першым сходзе, які прайшоў тут 4 траўня, намеснік старшыні адміністрацыі Першамайскага раёна Мінска Голуб на пратэсты грамадзянаў заявіў, што будаўніцтва гэтых шматпавярховікаў спыняецца. Аднак, як кажуць у ініцыятыўнай групе па правядзенні акцыяў пратэсту ўручанцаў, «гэтая заява аказалася хлуснёй». Ужо 15 траўня на спартовай пляцоўцы, дзе звычайна адпачываюць дзеці, з'явіліся бульдозеры і пачалі яе руйнаваць. Жыхары мікраёна Уручча тлумачаць гэта «страсцю да грошай і абсалютнай беспакаранасцю дзяржаўных чыноўнікаў і збіраюцца пратэставаць далей. Бо 16 траўня зноў прыехаўшы Голуб і паўтысячы мітынгоўшчыкоў ні пра што не дамовіліся: будаўніцтва нібыта і не вядзецца, але адмысловая агароджа блізу Русіянава,27 застаецца.

**Алесь КАТОВІЧ**

# Что может гарантировать режим после собрания

## *Похоже, Минск нарывается на очередные санкции*

В связи с мероприятием под названием Всебелорусское народное собрание вспомнился тест времен КПСС. В нем предлагалось найти общее и различие в советской и американской конституциях в отношении прав граждан на свободу собраний. Обе конституции такое право содержали. Но американская гарантировала свободу своим гражданам еще и после собрания. Последние изобретения в области декретного законотворчества лишь подтверждают эти различия.

Конечно, затеянная режимом массовка-собрание призвана осветить тот курс, по которому уже почти семь лет ведут Беларусь. Где она оказалась благодаря поводырям — известно. Теперь обещают объявить, что тем же курсом будут двигаться и дальше. При этом роль делегатов-статистов будет жалкой и никчемной, хотя официальная пропаганда усиленно тужится представить их победителями. Над кем? И никто даже не заикается о том, что на собрании могут быть какие-то дискуссионные выступления или, не дай Бог, появится какая-то депутатская группа типа межрегиональной. Если кто помнит, что это такое. Тогда, в конце 80-х, памятный Съезд народных депутатов стал предвестником заката советской системы. Ресурс ее был на исходе. Оппоненты нынешней власти в Беларуси утверждают, что и у нее с ресурсом такая же картина.

Видимо, пытаясь извлечь исторические уроки по-своему, апологеты нынешнего правящего режима предусмотрительно стремятся не допустить безбрежной демократии, которую могут породить массовки, пусть даже тщательно организованные. Уж это должны хорошо помнить товарищи-депутаты Малофеев, Попов, другие цековские и иже с ними деятели. Поэтому в недрах режима зреют планы возрождения до боли знакомых структур.

*Окончание на стр.3*

## МИД собирается выслать главу миссии ОБСЕ

Белорусский вице-премьер и министр иностранных дел Михаил Хвостов заявил, что руководством Беларуси рассматривается возможность высылки из страны руководителя Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси посла Ханса-Георга Вика.

«Мы очень ясно дали знать послу, что больше не будем терпеть деятельность, направленную на консолидацию усилий по дестабилизации в стране. Мы ясно дали понять послу Вику, что если он будет продолжать такую деятельность, мы рассмотрим вопрос о его пребывании. Мы не будем играть в прятки, мы не ведем какой-то закрытой игры с послом Виком. Но деятельность посла не может быть деструктивной для правительства, и правительство рано или поздно должно поставить об этом вопрос. Вопрос поставлен, и если вопрос будет доведен до конца, мы просто попросим посла покинуть территорию нашей страны. Предварительно мы, естественно, уведомим руководство ОБСЕ и предоставим соответствующие материалы, которые говорят о том, что деятельность руководителя группы ОБСЕ является деструктивной для нашего государства».

Суть претензий правительства Беларуси к послу Вику и КНГ ОБСЕ М.Хвостов объяснил так:

«Некоторые аспекты деятельности Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси вызывают озабоченность и непонимание с нашей стороны, и это в первую очередь касается деятельности группы в рамках проекта по организации сети внутреннего наблюдения за предстоящими президентскими выборами. Избирательный кодекс Беларуси представляет все возможности для проведения внутреннего наблюдения, однако на прошлогодних парламентских выборах в октябре в число внутренних наблюдателей были включены исключительно представители оппозиции, и КНГ заплатило им за работу. Это вызывает озабоченноть со стороны правительства. Я неоднократно беседовал на эту тему с господином Виком, и мы в свое время решили не поднимать этот вопрос перед ОБСЕ. Теперь мы представляем, что руководитель КНГ ОБСЕ посол Вик стремится объединить белорусскую оппозицию и выступить своего рода лидером. Таким образом КНГ превратилась в актера, который играет на политической сцене Беларуси. Это не просто слова, у нас есть факты. И этот актер играет против правительства».

По словам М.Хвостова, претензии у МИД есть только к деятельности посла Вика.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

# Беларускія самалёты рыхтавалі для агрэсіі

*Знішчальнікі МіГ-29, якія набыла паўднёваамерыканская краіна Перу ў Беларусі ў 1998 годзе, планавалася выкарыстаць для ўварвання на тэрыторыю суседняй з Перу краіны – Эквадора. Пра гэта паведаміла ў сераду агенцтва «Интерфакс» са спасылкай на звесткі агенцтва EFE.*



У адпаведнасці з паведамленнем, былы дарадца тагачаснага перуанскага прэзідэнта Альберта Фухіморы Уладзіміра Мантэсіньяс, які таксама з'яўляўся кіраўніком спецслужбаў Перу, вёў перамовы з прадстаўнікамі Беларусі аб набыцці МіГ-29. На жаль, невядома, хто менавіта з беларусаў вёў справы з У.Мантэсіньясам. Невядома таксама, ці ведалі ў Беларусі, навошта перуанцам спатрэбіліся знішчальнікі.

Як бы там ні было, але, паводле агенцтва *EFE*, тры знішчальнікі МіГ-29 былі набытыя Перу ў Беларусі за 126 мільёнаў долараў. Кантракт быў падпісаны ў ліпені 1998 года, а ўжо праз два тыдні прэзідэнт А.Фухіморы падпісаў указ аб выдзяленні сродкаў на набыццё ваеннай тэхнікі.

Цяпер высвятляецца, што гэтыя самалёты былі набытыя з вялікімі парушэннямі. Нацыянальны кангрэс – парламент Перу – пачаў расследаванне гэтага выпадку і нават стварыў адмысловую парламенцкую камісію, якая вывучае абставіны набыцця беларускай авіятэхнікі на сродкі, атрыманыя ад прыватызацыі.

У даведцы, падрыхтаванай камісіяй, у прыватнасці, сцвярджаецца, што «кантракт быў падпісаны без ухвалення яго ўрадам і інфармавання Нацыянальнага кангрэса».

Днямі перуанскі парламент абнародаваў відэазапіс перамоваў тагачаснага прэзідэнцкага дарадцы Уладзіміра Мантэсіньяса і былога міністра абароны краіны Сесара Саўседа з беларускімі гандлярамі зброяй. Здымкі вяліся 4 ліпеня 1998 года. У гэты дзень бакі ўзгаднялі дэталі здзелкі аб продажы Ліме 3 знішчальнікаў. Пры гэтым, па словах кіраўніка парламенцкай камісіі Педра Маралеса, У. Мантэсіньяс «прама і адназначна» выказваў волю кіраўніка краіны Альберта Фухіморы.

Парламенцкая камісія сцвярджае, што знішчальнікі маглі быць выкарыстаныя для ўварвання на тэрыторыю Эквадора, з якім у Перу ішоў тады памежны канфлікт. Таму, як паведаміў П.Маралес, відэакасета была перададзеная ў пракуратуру.

*Заканчэнне на стар.3*

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1370**

